# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 33 (1631) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 16 ЖНІЎНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Спознены жніво. У полі каля Арэшкава на Гайнаўшчыне. Фота У. Завадскага.

## На „Царковіску" над Нарвай

На „Царковіску" каля вёскі Рыбалы, на высокім беразе ракі Нарвы, у Заблудаўскай гміне, мастацкія калектывы з Паўлаў і Рыбалаў зрабілі сваю ноч Купалы.

Купальскую праграму над рэчкай папярэдзіў спектакль Паўлаўскага тэатра ў доме культуры ў Рыбалах. Тут паўлаўцы паказалі камедыю С. Яновіча „Сто хвароб на аднаго чалавека". Спяваў таксама вакальны жаночы калектыў з Паўлаў, якому на акардэоне акампанаваў Віктар Мартынюк. Ён жа іграў потым і над рэчкаю, а гранне яго гармоніка далёка лунала над ціхімі ў гэтую ноч хвалямі Нарвы.

Паўлаўска-рыбалаўскую ноч Купалы па справядлівасці назавем літаратурнай. Яе адкрылі вершам Янкі Купалы „Прывітанне" Лідзія Мартынюк — дырэктар вясковага дома культуры ў Рыбалах і Янка Мордань, яны разам вельмі ўдала дэкламавалі верш. Пасля такога прывітання разгарнулася багатая праграма. Беларускія вершы Купалы, Танка, Крапівы, Шведа па-мастацку зямлі і небу дэкламавалі Анна Мартынюк з Паўлаў, Мікалай Ігнацюк з Рыбалаў і Янка Мордань з Бельска, які супрацоўнічае з Паўлаўскім драмгуртком.

Песням не было канца. Я першы раз з задавальненнем слухала жаночы дуэт з Паўлаў — Мар'ю Іванюк і Мар'ю Харытанюк, а таксама сола Мар'і Іванюк, асабліва ж частушкі ў яе выкананні.

З вялікай увагай, рассеўшыся вакол купальскага агню, людзі слухалі расказ Мікалая Ігнацюка аб вялікім баі над Нарвай савецкага палка з наступаўшымі фашыстамі на грэцкі дзень вайны. Аказваецца адзін з савецкіх байцоў паранены выпаўз з поля бою і ў вёсцы Канюкі яго выхадзіла адна тамашняя жанчына. Ён жыве і хоча наведаць наш край.

Усе падтрымалі таксама ініцыятыву рыбалаўскага калектыву, каб на месцы, дзе загінулі савецкія абаронцы, паставіць помнік ім.

Як бачым, паўлаўска-рыбалаўская ноч Купалы на „Царковіску" розніламся ад іншых. І гэта добра. Вельмі добра, што людзі хочуць перажываць гэтую ноч па-свойму, спалучаючы гэтае старое беларускае свята са сваёй навейшай гісторыяй і з творчымі пошукамі свайго месца ў беларускай гісторыі і культуры. Якраз на такой дарозе пайшлі і... знайшлі папараць-кветку, сімвал нашай беларускай душы, калектывы з Паўлаў і Рыбалаў. (вв).

**УВАГА! ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ — РАСКЛАД РУХУ ЦЯГШКОЎ З ГАЙНАЎКІ.**

## ВЫНАХОДНІЦТВА І РАЦЫЯНАЛІЗАТАРСТВА Ў „ФАСТАХ"

У мінулым 1986 годзе ў Беластоцкім ваяводстве было асвоена і ўведзена ў вытворчасць 1313 рацыяналізатарскіх прапаноў, эфекты якіх акрэсліваюцца сумай каля 1 мільярда злотых.

Вынаходніцкі рух гуртуецца ў клубах тэхнікі і рацыяналізацыі на большых прадпрыемствах, аб'яднаных галіновых міжпрадпрыемствавых клубах, а таксама ў ваяводскім клубе, дзе ён мае асабліва дзейсную падтрымку.

Адным з лепшых клубаў тэхнікі і рацыяналізацыі лічыцца клуб на Беластоцкім прадпрыемстве бавоўнянай прамысловасці „Фасты". Там асвоены паводле вынаходніцкага праекту аднакупальны працэс мыцця і фарбавання дрэліховых тканін, аўтары яго — Анна Гузэк, Станіслаў Саковіч, Галіна Станьчык і Крыстына Шнайдэр. Эканамічны эфект гэтага вынаходства складае больш за 17 мільёнаў зл., ды яшчэ пры яго прымяненні атрымоўваецца значна менш хімічных адходаў у навакольнае асяроддзе. Гэта таксама мае важнае значэнне.

Вялікія даходы для прадпрыемства — на суму больш за 7 мільёнаў злотых — дало асваенне ў прадукцыі аднакупальнага фарбавання пражы паводле супольнага праекта Тадэўша Маліноўскага, Анны Прухневіч,

(Працяг на стар. 6)

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

### ЛЯ ФАНТАНА З НАФТЫ

Нафта — рухавая сіла сучаснага свету. Яна спрадвеку таілася ў беларускай зямлі. Вучоныя адшукалі яе. І ў лясах між рэкамі Ушача і Заходняя Дзвіна ўзвіўся пад неба нафтавы фантан...

Пачыналася якраз другая палова XX стагоддзя. На карце Беларусі паявіўся новы горад, горад нафтавікоў. Не першы і не апошні. Яго браты — гэта Жодзіна, Светлагорск, Салігорск. Таксама яны — дзеці апошняга дваццацігоддзя буйнага развіцця гаспадаркі Савецкай Беларусі.

Знаёмячыся з Віцебшчынай, я не мог, зразумела, не пабываць у Наваполацку. Рассеўся ён на беразе ракі Заходняя Дзвіна, у 12-ці кіламетрах ад старажытнага Полацка і ў 120 км ад абласнога цэнтра. Такім чынам мінулае Беларусі падало руку яе сучаснасці.

Больш за дзве гадзіны язды з Віцебска. Аўтобус быў запоўнены да апошняга месца. Гэта давала магчымасць прыслухацца да звычайнай, штодзённай гутаркі тутэйшых людзей. Карысталіся яны выключна рускай мовай, але з моцна адчувальным беларускім акцэнтам. Значыць, ад свайго роднага нікуды чалавек не ўцячэ, як бы не намагаўся.

У Наваполацку праблема нацыянальнага характару асабліва заблытана. Тры разы ў тыдзень на чатырох старонках выходзіць тут гарадская газета „Химик". Я пытаюся ў галоўнага яе рэдактара, Сімурава Уладзіміра Пятровіча, чаму „Химик" друкуецца на рускай мове.

— У Наваполацку жывуць заraз і працуюць прадстаўнікі звыш сарака нацыянальнасцей і народнасцей, — паясніў ён. — Пры такіх абставінах руская мова з'яўляецца аб'ядноўваючым звяном, якое мацуе новазасваны гарадскі арганізм.

Аднак надпісы на ўстановах і магазінах тут двухмоўныя: руска-беларускія, многа беларускіх акцэнтаў сустракаецца і ў назвах гасцініц, кавярняў, рэстаранаў і магазінаў.

Звыш дзесяці гадоў у Наваполацку працавалі палякі, рабочыя фірмы „Энергаполь", накіраваныя на пабудову нафтатрубаправодаў. Яны пракладалі шлях нафце з Наваполацка ў

(Працяг на стар. 2)

# ФАЛЬШ І СОРАМ

Дазвольце, дарагія чытачы, падзяліцца з вамі маімі заўвагамі аб дзіўнай сітуацыі, якая здарылася на X юбілейным фестывалі Украінскага грамадска-культурнага таварыства ў сопацкай Лясной оперы 4 і 5 ліпеня 1987 г. З прыемнасцю скарыстала я з запрашэння пабрацімцаў і з увагай слухала песні ў выкананні шматлікіх калектываў і салістаў. Захаплялася дасканалай падрыхтоўкай, арганізаванасцю, высокім узроўнем амаль усіх спевакоў і танцавальных груп.

Аднак узнёслы настрой, які спадарожнічаў мне і іншым беларускім сябрам, што былі на аглядзе, раптам лопнуў, бы мыльная бурбалка, калі канферансье абвясціў: „Нявычарпаная крыніца фальклору — Падляшша. Выступяць „Хлопцы-рыбалоўцы", што спяваюць у Кляшчэль..." І далей прачытаў загалоўкі песняў, між іншым: „Капаў крынічэньку", „Хто так зяця выбірае", „Хлопцы-рыбалоўцы", пры тым аб'яўляючы, што ўсё гэта „народныя ўкраінскія" песні.

Як можна падаваць людзям такую фальш? Да таго ён не дадаў ні аднаго слоўца, што выступае якраз беларускі калектыў...

Стала мне вельмі сумна на душы. Прыкра, думаю, было таксама „Рыбалоўцам", якія крыху разгублена і збянтэжана выступалі на сцэне Лясной оперы. Дзе і падзелася іхняя элегантнасць, бадзёрасць і ўпэўненасць у сабе, якая спадарожнічае ім на беларускіх імпрэзах? Мо таму і калектыў выступіў у няпоўным складзе? Выглядала на тое, што знайшліся таксама „рыбалоўцы", якія не захацелі так ганебна прадацца. Вельмі цяжка пагадзіцца з тым, што некаторыя з нас без моцнага хрыбта і гонару, становяцца яны невядома кім. Як жа ж можна пагадзіцца з такімі паводзінамі, маючы за сабой адвечныя народныя, беларускія традыцыі і багатую дзейнасць на беларускай ніве? Урэшце, якім жа правам яны гандлююць беларускай народнай гаворкай Беласточчыны? І ўкраінцам якая ж карысць з рэнегатаў? Выбачайце за моцныя словы.

Гэтае здарэнне зусім мяне ашаламіла і вельмі абурыла. На шчасце, у пэўным моманце, падчас спявання „Рыбалоўцаў", пачула я голас нейкай украінкі, якая звярнулася да свайго суседа на чыстай украінскай мове. Яна пра „Рыбалоўцаў" сказала: „Гэты калектыў спявае дзіўна, нельга іх зразумець, яны ж спяваюць не па-ўкраінску!.."

Я паціхеньку іх паінфармавала, што якраз канферансье забыўся дадаць, што выступае беларускі калектыў з Рыбалаў з беларускімі песнямі і спявае ён на рэгіянальным бельскім дыялекце.

Аднак калі я дакладней пазнаёмілася з праграмай усіх чатырох канцэртаў украінскага фестывалю, тады аказалася, што такіх псеўдаўкраінскіх песняў з Беласточчыны прадбачана ў ёй больш за дванцаць і выступалі з імі такія „ўкраінскія" калектывы як: „Ранак" з Чаромхі, „Аверс" з Чаромхі-мястэчка, жаночая вакальная група з Чаромхі, „Чайка" з Кляшчэляў і жаночая група з Дабрывады.

Прадстаўляючы адзін з нашых калектываў, канферансье здзіўляўся, маўляў: „Як можна было не адкрыць іх раней, яны ж дзейнічаюць ужо 16 гадоў!.."

Дарагія чытачы, ці ж гэта не дзіўная сітуацыя? На маю думку яна ненармальная і не ведаю, у чым яе прычына. Мо нашыя калектывы проста не ведалі, што будуць выступаць ананімна (маю на ўвазе нацыянальнасць). Пэўна яны не ведалі таксама, што мясцовыя беларускія песні будуць прадстаўлены гаспадарамі фестывалю як „украінскія".

Нашым шасці калектывам, пэўна, было вельмі прыкра глядзець на літоўцаў і кашубаў, якія, так як і два гады таму назад „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага, з горда ўзнятай галавой славілі свае народныя традыцыі ў сопацкай Лясной оперы.

Я проста не дапускаю думкі, што нашыя спевакі з Рыбалаў, Кляшчэляў, Чаромхі і Дабрывады здрадзілі самім сабе, здрадзілі жыхарам вёсак і сваім продкам. Патапталі бацькаўшчыну, каб стацца нікім. Яны ж не былі прадстаўлены многатысячнай публіцы, як украінцы ці беларусы, якраз гэтае найважнейшае было, далікатна кажучы, прамоўчана красамоўнымі гаспадарамі фестывалю. Трэба будзе пагаварыць з нашымі братамі-ўкраінцамі, арганізатарамі X цэнтральнага агляду аматарскіх калектываў і запытаць, чаму якраз гэтак сталася.

У нас жа столькі супольных важных спраў! Мы жывём і дзейнічаем у аднолькавых варунках і дагэтуль было выдатнае супрацоўніцтва беларусаў і ўкраінцаў...

Што сталася?

**А. Іванюк**

# ХРОНІКА

**Ліпень 1987 г.**

4 — Гайнаўскі і Нараўчанскі аддзелы БГКТ арганізавалі Купалле ў Грушках на рэчцы Нараўцы. Купальскія песні спяваў хор з Гайнаўкі і калектыў „Цаглінкі" з керамічнага прадпрыемства ў Старым Ляўкове. З дакладам выступіў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Госцем была Вера Сэйпак — зямлячка з Аўстраліі.

5 — Калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова даў канцэрт на фэстыне кааператыўных арганізацый у Міхалове.

19 — Хор Беластоцкага аддзела БГКТ спяваў у Чыжах на фэстыне з нагоды свята Адраджэння Польшчы.

23 — Вечарынай пры свечках закончыўся працавіты сезон хору Беластоцкага аддзела БГКТ. На апошняй рэпетыцыі падведзены былі вынікі гадавой працы, выказана падзяка найбольш ахвярным харыстам. У жніўні, на час вакацый, хор спыніў сваю дзейнасць. (л)

(Працяг са стар. 1)

# ЛЯ ФАНТАНА З НАФТЫ

Мажыкяй і іншыя. Разам больш за тысячу кіламетраў абсталяваных у зямлі тоўстых, стальных труб і сотні дапаможных збудаванняў.

— Апрача гэтага, — адзначае У. Т. Сімураў, — палякі падарылі нашаму гораду аграмадны жылы дом і танцавальную пляцоўку.

Многія маладыя рабочыя вярнуліся ў Польшчу жанатымі з наваполацкімі прыгажунямі.

— Здаралася і так, — дабаўляе ён, — што полькі выходзілі таксама замуж за нашых хлопцаў і засталіся жыць у Наваполацку.

І так папаўняўся гэты стракаты нацыянальны малюнак горада на Заходняй Дзвіне. Буйная нафтаперапрацоўчая прамысловасць патрабавала ўсё больш і больш высокаадукаваных інжынераў, тэхнолагаў і рабочых. У Наваполацку працуюць зараз політэхнічны інстытут, шматлікія прафесіянальныя вучылішчы і агульнаадукацыйныя школы. Абяцаючыя жыццёвыя перспектывы вабяць у гэты прыгожы куток Беларусі маладых людзей з усяго Савецкага Саюза. Сярэдні ўзрост насельніцтва Наваполацка не дасягае нават і трыццаці гадоў.

Нездарма ж першая і найважнейшая вуліца ў гэтым горадзе называецца менавіта Маладзёжнай, а цэнтральная плошча атрымала імя Будаўнікоў.

Маладосць мае свае патрэбы. І гарадскія ўлады намагаюцца, найчасцей паспяхова, абяспечыць гэтыя патрэбы. Гаварылі мне, што ў Наваполацку няма клопату, каб атрымаць для дзіцяці месца ў яслях або ў садзіку, як тут называюць прадшколле. Адзінаццаць сярэдніх школ, значыць — дзесяцігодак поўнасцю пераведзены на кабінетную сістэму навучання. Усе дзеці вучацца ў адну змену. Пры гэтым трэба ведаць, што Наваполацк вылучаецца самымі высокімі ў Саюзе паказчыкамі нованароджаных дзяцей у адносінах да колькасці насельніцтва.

Ды сам горад, калі разглядаць справу ў гістарычных маштабах, знаходзіцца яшчэ ў дзіцячым узросце. Статут горада Наваполацк атрымаў толькі ў 1966 годзе, а дзесяць гадоў назад на гэтым месцы шумеў адвечны лес і толькі геолагі-нафтавікі парушалі наддзвінскі спакой. У 1956 годзе Савет Міністраў СССР прыняў рашэнне аб будове на Заходняй Дзвіне нафтаперапрацоўчага камбіната.

— Вось тут пачынаўся наш горад, — заявіў Уладзімір Арлоў, мой праваднік, беларускі пісьменнік.

Пад кучаравымі кронамі маладых бярозак я пабачыў няхітры памятны знак „Першая палатка". Па камсамольскаму закліку ў чэрвені 1958 года ў гэтым месцы абсталявала сваю палатку першая група будаўнікоў. Цяпер Наваполацк — буйнейшы ў Еўропе цэнтр па перапрацоўцы нафты. Усё, што сучасная тэхналогія выдумала вырабляць з нафты, інжынеры і рабочыя Наваполацка таксама ўжо засвоілі і выпускаюць. Нават бялкова-вітамінныя канцэнтраты, неабходныя ў нарыхтоўцы высакаякасных кармоў для жывёлы. Многімі кіламетрамі паабапал шашы цягнуцца амаль без перапынку аграмадныя збудаванні розных заводаў, якія ў сваёй вытворчасці выкарыстоўваюць нафту і яе прадукты.

Не толькі адной працай жыве чалавек. У некалькіх кіламетрах ад горада і заводаў, на высокім беразе ракі Дзвіны, знаходзіцца зона адпачынку. Між іншым, цудоўна запраектаваны прафілакторый прамыслова-вытворчага аб'яднання „Палімер". Заплаціўшы 16 рублёў, можна там жыць цэлы месяц, забыўшыся аб сямейных клопатах і штодзённых патрэбах. Зранку — на работу, пасля змены — у прафілакторый. А тут лес, вада, спакой і ўсё гатовае, што неабходна для жыцця і здароўя.



Прафілакторый. Тут адпачываюць рабочыя заводаў Наваполацка.

Праўда, у час, калі я наведаў Наваполацк, значыць у ліпені 1986 года, гэты прафілакторый быў адведзены перасяленцам (маці і дзецям) з небяспечнай прычарнобыльскай зоны. Цяпер ён зноў служыць рабочым Наваполацка.

Не хацелася мне пакідаць гэты горад ля фантана з беларускай нафтай. Пад абед хмары крыху разышліся і новабудоўлі Наваполацка зноў зазіхацелі ў сонцы поўнай красой.

Найпрыгажэйшым гэты горад выдаўся мне з маста над ціхай Дзвіною. Мы крыху спыніліся над яе берагам. Хацелася, каб панарама Наваполацка замацавалася ў памяці.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара

# ПРЫСУТНАСЦЬ

## студэнцкая старонка

Па прапанове беларускіх студэнтаў хачу сёння сказаць ад сябе пра I з'езд беларускіх студэнтаў, згуртаваных у Радзе культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей пры Саюзе польскіх студэнтаў. З'езд адбыўся ў Бельску ў месяцы сакавіку бягучага года. Быў ён і застанецца, я ў гэтым не сумняваюся, падзеяй вялікай і важнай не толькі для студэнтаў, але для ўсёй беларускай нацыянальнасці ў Польшчы.

Асабіста лічу гэты з'езд важнай падзеяй. Больш — падзеяй гістарычнай, накіраванай у будучыню. Бо з'езд пацвердзіў, а нават на новы якасна ўзровень узняў студэнцкія пошукі нацыянальнага самаакрэслення. Ён вельмі выразна выявіў настроі і тэндэнцыі, якія ў апошнія гады паявіліся сярод моладзі і сярод моладзі студэнцкай асабліва. Ёсць, праўда, некаторыя людзі ў нас, якія хацелі б бачыць у студэнцкім з'ездзе маламаштабнае здарэнне, хвілінны ўзлёт маладосці. Не гаворачы ўжо аб тым, што такая трактоўка студэнтаў несур'ёзная, хочацца заўважыць: яны проста звычайна памыляюцца, не ведаючы дыялектыкі не толькі студэнцкіх рухаў, але ўвогуле грамадскіх рухаў. Гісторыя дае многа прыкладаў, што прагрэс у кожнай галіне ідзе ад маладых. Пры тым вельмі часта ад студэнтаў. І калі сярод студэнтаў назіраецца ўздым, пошукі — гэта трэба толькі прывітаць. Нашы беларускія студэнты прадэманстравалі сваю палітычную і нацыянальную спеласць. І гэта лічу найважнейшым фактарам, які давёў да іх з'езда і які дзейнічае ў далейшай іх працы.

З'езд беларускіх студэнтаў у Бельску быў з'ездам многалюдным, агульнакраёвым і легальным. Гэтая легальнасць з'езда і дзейнасці беларускіх студэнтаў мяне асабіста найбольш захапіла. Яна знайшла пацверджанне і ў прывітанні I з'езду беларускіх студэнтаў у Бельску старшыні Бельскай рады ПРОН Я. Вавжыняка, які выказаў сваё задавальненне гэтым фактам, падкрэсліваючы гонар горада Бельска, што выхадцы гэтай зямлі тут сабраліся на свой з'езд. Сказаў таксама, што ПРОН будзе падтрымліваць дзейнасць беларускіх студэнтаў на грамадска-культурнай ніве.

Увогуле ўлады горада з вялікай павагай аднесліся да з'езда беларускіх студэнтаў, якраз у Бельску, на зямлі, дзе традыцыі беларускай дзейнасці вельмі даўнія і моцныя, пачынаючы з КПЗБ, ТБШ, змаганняў тутэйшых беларусаў за народную ўладу, беларускае школьніцтва і аж да нашых дзён. Беларускія студэнты моцна звязалі сваю нацыянальную ідэю са сваім кроўным асяроддзем. Іх пачынанні на гэтай ніве трэба ўсім і ўсяляк падтрымліваць.

Мне ўспамінаецца карціна: аб'яўляюць, што ў зале побач сакратар ГП БГКТ Віталі Луба хоча сустрэцца са студэнтамі-членамі БГКТ. Хуценька іду. Хачу пабачыць, ці многа тых студэнтаў прыдзе і што яны скажуць.

## ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА З'ЕЗДА

Прыйшло многа. Запоўнілі залу, абселі нават праход, проста на падлозе. Вельмі прыемныя хвіліны. Справа ў тым, што беларускія студэнты, аб'яднаныя ў сваёй Радзе, хочуць быць поўнасцю прысутныя і ў БГКТ, хочуць працаваць у яго структурах і здзяйсняць яго ідэі. Хочуць, каб Таварыства выкарыстоўвала іх маладыя сілы і здольнасці.

Сярод беластоцкіх студэнтаў многа членаў БГКТ. Яны з нецярплівасцю, характэрнай для маладосці, чакаюць заканчэння працяглага рамонту будынка Таварыства ў Беластоку, каб — як кажа Данка Мароз — „мець там свой куточак".

На той з'ездаўскай сустрэчы студэнтаў з БГКТ было выказана многа спелых, адважных думак наконт ролі маладых у Таварыстве і наконт талерантнасці да студэнцкіх пачынанняў і пошукаў з боку старых дзеячоў і БГКТ.

Мяне задзівіла і абрадавала цвёрдасць, з якой беларускія студэнты бароняць свае думкі і пазіцыі. Гэта для студэнтаў тыпова. Ці ўсе, аднак, гэтаму рады? На жаль, сярод старэйшага пакалення беларускіх дзеячоў назіраецца кансерватызм і патэрналізм тыпу: „Мы вам усё далі, а вы яшчэ бунтуецеся?.."

Факт, студэнты працуюць па-новаму, дынамічна, так як і трэба. Толькі адкуль бярэцца незразуменне гэтай справы з боку некаторых старэйшых людзей, пазіцыі якіх можна б акрэсліць рускай прымаўкай: „Тише едешь, дальше будешь".

Студэнты нават свой з'езд праводзілі па-новаму. У іх, напрыклад, не было аднаго вядучага даклада ў прывычным сэнсе гэтага слова. Затое выступіла ў іх можа з 15 дакладчыкаў па пяць мінут кожны і прадставілі яны ў гэтакі спосаб усю багатую праблематыку з'езда. Якраз у студэнтаў трэба вучыцца працаваць па-новаму!

Другі мой моцны ўспамін са з'езда: усе ўдзельнікі дыскусіі, а было іх дзесяткі, гаварылі па-беларуску. Вядучы з'езд, праўда, сказаў, што калі каму вельмі цяжка выступаць па-беларуску, хай гаворыць па-польску. Аднак такіх не знайшлося. Студэнты гаварылі па-беларуску, без паперкаў, узважваючы свае думкі і словы. Нямногімі словамі, без упрыгожвання, выказвалі яны глыбокія і спелыя думкі і пажаданні маладых выхадцаў з сялянскай Беласточчыны, якія, трапіўшы ў вялікія гарады, у вышэйшыя школы, у вялікую бурлівую дэмакратычную студэнцкую стыхію, абса-

**(Працяг на стар. 6)**



## „БАЦЬКАЎШЧЫНА-4" У ФОТААБЕКТЫВЕ АДАМА ЛЯШЧЫНСКАГА



**Ва ўсмажлівыя дні прахалоды Нарвы нішто не заменіць!**



**Міса фота „Бацькаўшчына-4".**



**Толькі адна, а колькі радасці!..**



**І бабулі з Кашалёў ахвотна нас слухаюць.**



**Во колькі нас! Развітальны здымак, на жаль...**




## АЖ ТРОЕ ЎЖО РАБОЕ!

У васемнаццатай „Ніве“ Аўрора, палемізуючы са мною, паставіла пытанне: ці напэўна абое рабое? Аўрора, слухай, не толькі напэўна, але скажу табе яшчэ і так: аж трое ўжо рабое! Пачну ад сябе: мы абое раўнюсенькія, адзін аднаго разумеем, не абы-як дасведчаныя жыццём. Мая жонка была ўдавою па загінуўшым на вайне мужыку, і я быў удаўцом. Так мы і сышліся — удавец з удавою. Мы такія, як тыя салдаты, што выйшлі з вялікага бою, тады яны дружныя і стойкія. Муж маёй жонкі пайшоў на вайну, а ёй давялося нарадзіць потым дзіця ад яго. Як праходзіў фронт, то немцы палілі вёску, людзі ўцякалі ў лес. Запалілі млын. Затым абклалі саломаю жончыну хату, каб гэтак жа запаліць, ды прыгаворвалі ёй, за што гэта будуць яны паліць яе хату. Гаркавілі: „Твая мэнш русішын зольдат бандіт! Твая капут і твая малая кіндэр капут!“ Але не суджана было згарэць. Надыйшоў старшы немец, які загадаў не падпальваць, і яшчэ адшукаў старую бабку, што не ўцякла ад смерці, і прывёў яе да жонкі, каб дапамагла ёй радзіць дзіцяня. Той немец растлумачыў бабам, што і ён таксама пакінуў сваю жонку ўжо з „жыватом“.

У страшны ваенны час жонка засталася без мужа, са старою свякрухаю гадаваць дзіця і абрабляць гаспадарку. І нікому яна не скардзілася на чужых мужчын, якія не дапамагаюць сваім жонкам гадаваць дзяцей, што якраз і робіць Аўрора.

І мне давялося ўсякага гора хліснуць. З першай сваёй жонкаю я пражыў дванаццаць гадоў вельмі добра і згодна. Па вайне паўміралі нам абодва хлопчыкі, была эпідэмія халерынкі.

Калі прычакалі хлопчыка, і яму было ўжо чатыры гады, то жонка зноў зацяжарала, трэба было завезці яе ў бальніцу, і ў першую ноч яна там памерла. Я тады начаваў у Беластоку і трэба было мне аднаму ўсенька

(Працяг на стар. 5)



Стары Беласток. Баяры. Мал. Уладзіслава Петрука.

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ

### ПАЖАРНІКІ З МАЛІННІКАЎ

У Маліннiцкай добраахвотнай пажарнай камандзе (гміна Орля) 21 чалавек. Сёлета мінае 30 год ад яе заснавання. Ужо 30 год пажарнікі „шліфуюць“ свае ўмеласці ў барацьбе са страшнай стыхіяй агню. У час гмінных конкурсаў пажарнікаў яны заўсёды заваёўваюць першае або другое месца.

Але разы тры ў год даводзіцца выехаць на сапраўдны пажар. Тады пажарнікі хапаюць прылады і фурманкай або трактарам спяшаюцца з дапамогай. Аднак у той час, калі дарагая кожная секунда, вельмі прыдаўся б пажарнікам баявы самаход. На жаль, маліннiцкая каманда ніяк не можа дачакацца яго прыдзелу.

Кожны год пажарнікі праводзяць супрацьпажарны кантроль у Малінніках, Тапчыкалах і Пашкоўшчыне, а сярод сялян супрацьпажарную прафілактыку.

Маліннiцкі калектыў пажарнікаў з'яўляецца ініцыятарам і арганізатарам шматлікіх вясковых пачынаў. Вось цяпер разам з моладдзю яны ўзяліся за рамонт вясковай святліцы.

**Міхась Хмялеўскі**

**Аляксей Карпюк**

Калісьці на ўскраіне горада Л. жылі браты Пташкоўскія — Іван ды Мікалай. Іван ужо меў жонку, малога сына і быў сакратаром падпольнай ячэйкі Кампартыі. Іван — чалавек цвёрды, ідэйны. Верыў людзям, за што яны верылі і яму ды паважалі.

У 1935 ячэйку ў гарадку Л. сышчыкі дэфензівы выкрылі ды зліквідавалі. Івана дэфензіўшчыкі мучылі, катавалі, падсылалі да яго ў камеру правакатараў, але ён нікога не выдаў, нічога катам не сказаў ды яшчэ і сам неўзабаве з-пад арышту ўцёк.

Паваляўшыся пару тыдняў па чужых гумнах, Пташкоўскі з двума падпольшчыкамі — Цішэўскім і Каліноўскім — падаўся ў СССР. Сябры граніцу перайшлі адразу, затое Пташкоўскаму не пашанцавала — перашкодзілі польскія пагранічнікі.

Вярнуўшыся дамоў, Іван некалькі дзён вылежваўся ў бульбяных ямах, пакуль маладзейшы брат дабываў яму на дарогу грошы, а жонка зноў рыхтавала торбу.

Праз месяц Пташкоўскі адзін пераадолеў кардон.

Як Іван ні даводзіў, хто ён і чаго перабег у СССР, канваіры не адпускалі, а ветліва і маўкліва перадавалі яго з рук у рукі, і так уцякач неўзабаве трапіў у сталіцу.

У мінскай турме Івана ўжо чакалі — Цішэўскі з Каліноўскім.

На радасць хлопцам, следчы трапіўся родам таксама з Заходняй Беларусі ды нават — з іхніх мясцін. Чалавек удзельнічаў у грамадзянскай вайне, а потым застаўся ў СССР...

Толькі дарэмна хлопцы радаваліся.

Насцярожана распытаўшы затрыманых пра жыццё на былой радзіме, следчы нават здзівіўся, што з-за эканоміі кожную запалачку цяпер мужыкі па вёсках колюць на дзве палавінкі, з пасажырскага цягніка на вакзале горада Л. злазіць звычайна двачтры пасажыры, затое ў віленскім часопісе „Маланка“ друкуюцца вершы супроць паноў і




Дарога з Трок у Дарагічын — гэта ў тыя часы сама меней чатыры дні ў сядле, пры тым змяняючы некалькі разоў коней. Таму што аніякая жывёліна, нават самая вынослівая, не змагла б прабегчы запар такую адлегласць — па простай лініі каля 40 старабеларускіх міляў, значыць, 200 тадышніх вёрст, а старабеларуская вярста па сённяшніх мерках — гэта 1.560 метраў. Што ж, ставала часу на роздумы.

Вітаўт любіў гэты шлях, асабліва калі, пераначаваўшы за высокімі сценамі Варэны, ён ужо каля поўдня ўязджаў у прызначаны яму бацькам удзел — Гарадзенскае княства.

Урослыя гонкімі сасновымі барамі лагодныя пагоркі, над звілістымі ручаямі і рачулкамі — астравы цёмнага алешніку. Да іх там ды сям прытуліліся чалавечыя сялібы: або баярынава дварышча, або сялянская хаціна. Побач з імі, на рэчках, відаць былі то млынок, то фолюш, то рудня, а ўсюды — пад




снегавым покрывам абшырныя палі ды сенажаці. У лясной глушы, на выжарах, амшэлыя сосны, увешаныя борцямі, у надрэчных далінах, мабыць, людныя бабровыя гоны, бо дзе ні кінь вокам, усюды тырчаць высокія востраверхія асінавыя пні — сляды бабровага жыравання. Паўсюдна відаць гаспадарлівая чалавечая рупнасць. Толькі крэпасці, якія, быццам буслянкі, вяршылі дзе-нідзе самыя стромкія, бязлесныя ўзгоркі, не цешылі княжага вока ні навізной, ні магутнасцю. І не выпадкова. Ужо ж мінула роўна сорак год ад апошняга, у 1341 годзе, найсця крыжакаў на гэтую зямлю, і яе насельнікі проста занядбалі іх. „Што ж, пакуль Пярун не грымне, чалавек яму не пакloніцца!“ — прыгадвалася князю старая прыказка.

Надвячоркам, калі са сваёй невялічкай світай Вітаўт наблізіўся да Горадні, настрой у яго падняўся. Горад разрастаўся — свежыя зрубы шырокім вянком акружылі старую гарадскую сцяну, распаўзаліся па ўзбярэжжах Нёмана і Гараднічанкі. Мацнеў нанач мароз, і з кожнай хаты падымаўся струмень дыму — бахматая дымавая хмара, быццам агромністая цёплая зімовая шапка атуляла горад. З рамесніцкіх пасадаў даносілася густое дзвэнканне молатаў, шорганне пілаў, стуканне сякер, паскрыпванне розных варштатаў, гоман людзей — Горадня жыла інтэнсіўным жыццём і гэта цешыла князя.

Уехаўшы ў крэпасць праз браму побач са старажытнай круглай вежай, ён спачатку перакусіў ды перапачыў з дарогі. Потым клікнуў цівуноў, што на вестку аб яго прыездзе з'явіліся ў замку і ў напружанасці чакалі загадаў, і праведаў, як стаяць розныя справы ў княстве. Пасля распарадзіўся адабраць з кожнай капы дымаў-сямей вялікакняскіх падданых адзін дым-сям'ю маладую, здаровую і разрослую ды перасяліць на зваяваныя крыжакамі Бельскую і Дарагічынскую землі. Не прамінуў таксама востра напомніць пра тэрміновае аднаўленне і ўмацаванне крэпасцяў, асабліва на пагранiччы з крыжакамі.

Назаўтра ўзыход сонца Вітаўта і яго спадарожнікаў застаў ужо ў дзвюх мілях ад Горадні. Свежыя стаеннікі весела пырхалі на марозным паветры і без заахвочвання жвава трухалі па выезджанаму гладкаму шляху. Бадзёрасць прадвесняга ранку перадавалася маладым баярам: яны перакідваліся жартамі, пакеплівалі адзін з другога, звонка смяяліся. Але князя гэтая маладзецкая весялосць не кранала. Ён, праўда, час ад часу ад душы

# ВЕЛІКАМУЧАНІК

Пілсудскага, а тыя вымушаны цярпець.

Іхні землячок паходзіў з катэгорыі людзей, у якіх рэвалюцыйны запал паступова перайшоў у фанатызм, чуласць перарасла ў падазронасць, а дысцыпліна — у баязлівае падпарадкаванне загадам, інструкцыям і начальству. Калі ён выслухаў да канца землякоў, нават парагатаў з маланкаўскіх твораў Міхася Васілька — „Век дваццаты". „Як я пана перанёс", „Эх, гарэліца мая, што ты вычаўпляеш" (хлопцы прачыталі земляку на памяць!), — чалавечыя праявы ў следчага на гэтым скончыліся. Службіст раптам як бы прачнуўся. Ён ужо пыхліва зморшчыў лоб, падумаў ды прамычэў:

— Мажліва, вы — нашы людзі. Мажліва... Цалкам мажліва... Толькі не падабаецца мне, што вашы прозвішчы на „скі"... Ды і родам вы з Л-га павету... Сярод перабежчыкаў трапляюцца шпіёны, факт? Факт! А мы трымаемся жалезнага закону: хай лепш загіне сто невінаватых, чым прапусціць аднаго ворага, так? Та-ак! Які з гэтага робім вывад? На ўсялякі выпадак пашлём вас на Поўнач пілаваць лес. Кропка!

Праз пару гадоў Пташкоўскі землякоў пахаваў: Цішэўскага прываліла сасной. Каліноўскі кінуўся на кулі вартаўнікоў і згас на вачах калоны. Сам Іван захварэў язвай. На яго шчасце, знайшлася добрая душа, што яго выхадзіла — медсястра Тэкля, якая знаходзілася ў зоне на пасяленні.

Тым часам у 1939 на танках з пяцікутнымі зорачкамі ў горад Л. прыйшло доўгачаканае вызваленне. Узрадаваны Мікалай Пташкоўскі адразу ўзяўся шукаць старэйшага брата. Ішлі тыдні, месяцы — беспаспяхова.

На свеце зрабілася неспакойна. То адну, то другую краіну агортвала полымя вайны. Іванава жонка супакойвала сваяка — яе муж, такі разумны, ідэйны і цвёрды, напэўна, цяпер на сакрэтнай службе, прыйдзе час і аб'явіцца сам. З гонарам за бацьку рос на сумленнага чалавека Іванаў сын, а гэта давала сілы маці.

Неўзабаве немцы пайшлі вайной і на СССР. За начнымі налётамі савецкіх самалётаў на станцыю Л., за дыверсіямі партызан і весткамі з фронту для Пташкоўскіх заўсёды стаяў іх Іван, што давала ім бадзёрасці перажыць страшныя дні акупацыі.

Калі нацыстаў з горада Л. праперлі, Іванаў сын трапіў у армію і пад Кёнігсбергам ледзь не склаў галавы. Вярнуўшыся са шпіталю без нагі, ён паступіў у інвалідную арцель рамантаваць гадзіннікі.

Мікалай і далей не пераставаў шукаць брата.

Нарэшце малодшы Пташкоўскі даведаўся, што яшчэ тады Івана арыштавалі як шпіёна і саслалі, што, адсядзеўшы тэрмін, брат застаўся на пасяленні, потым захварэў, ажаніўся з медсястрой, і яна хворага вылечыла.

Пасля XX з'езда Пташкоўскага рэабілітавалі, вярнулі партбілет, выдзелілі персанальную пенсію.

Ішоў год за годам, а персанальнага пенсіянера ў далёкім краі ўсё непакоіла настальгія — невыносна цягнула на бацькаўшчыну. Добра разумеючы, што азначае для змардаванага нягодамі чалавека хоць з тыдзень падыхаць родным паветрам, Тэкля наскрабла яму грошай на гарнітур, купіла білет.

Настаў дзень, калі Іван нарэшце рушыў у далёкую дарогу.

Затузаны арганізм няшчаснай ахвяры розных палітыкаў такой эмацыянальнай нагрузкі не вытрымаў. Пад горадам Л., убачыўшы праз акно родныя сілуэты, пачуўшыляскат колаў на, здалося яму, знаёмых да болю ў сэрцы стрэлках, Пташкоўскі аслабеў і раптоўна памёр ад інфаркту.

На спатканне з дарагім госцем сваякі і былыя падпольшчыкі з часоў „санацыі" прыбылі цэлай гурбой — з дзецьмі і ўнукамі, нават — з гарманістам. Не дачакаўшыся незвычайнага пасажыра, яны, надта расчараваныя, неахвотна пабрылі дамоў. У тэлеграме з Варкуты гаварылася і пра нумар вагона, аднак ніхто чамусьці і не падумаў нічога кепскага, убачыўшы ля другіх дзвярэй вагона медыкаў у белых халатах з хуткай дапамогі.

Будучы выпадкам у сакратара гаркома горада Л., я стаў сведкам, як дзяжурны з чыгуначнай міліцыі прынёс кніжку персанальнага пенсіянера і партбілет дзіўнага пасажыра, што памёр ужо на самым парозе таго горада, куды ехаў. Пры мне кіраўнік раёна загадаў пашукаць аднафамільцаў.

Праз гадзіну-дзве з'явіўся малодшы брат нябожчыка і толькі цяпер высветлілася ўся сумная гісторыя. Асабліва прыняў да сэрца выпадак я. У той самы час, што і старэйшы Пташкоўскі, уцякаў у СССР таксама і я, толькі пагранічнікі мяне вярнулі. Слухаючы цяпер пра ўсю трагедыю, я з жахам падумаў: зусім проста мог апынуцца на месцы гэтага велікамучаніка.

Праз пару дзён за кошт парткома ў горадзе Л. адбылося пахаванне. На хаўтуры з Варкуты выклікалі і другую жонку нябожчыка. Прытэпала і першая, я яе бачыў — бяззубая бабуля з кіёчкам. Прычыкілдаў на мыліцах і сын-інвалід. Сышліся былыя падпольшчыкі. Жалобны марш іграў духавы аркестр з раённага Дома культуры.

Івана Пташкоўскага пахавалі прыстойна. Ляжыць на гарадскіх могілках — побач з брацкай магілай байцоў, якія загінулі пад горадам Л. у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. А мяне не перастае душыць у горле нейкі камяк. Час ідзе, а ён усё душыць, душыць і душыць...

**Аляксей Карпюк**

„Літаратура і мастацтва" ад 17 ліпеня 1987 г.

(Працяг са стар. 4)




аформіць. Добра, што былі людзі з Шымкаў і схацелі прывезці нябожчыцу дамоў. І вёз я яе цэлую ноч тадышнім „жалезняком", і думаў, што я скажу дзіцяці, бо яно ўжо добра ведала сваю матку. Як жа цяжка было потым чуць такія словы малога: „Няхай мама прыйдзе з магілак і пачэша мне галоўку..." Ну, і трэба ж было згатаваць есці, і хлеба напячы, бо ў тыя часы хлеб у вёску не прывозілі. Трэба было і калі-некалі ў хаце папратаць, і сарочкі ды рубашкі памыць, і пасуду, хоць яе было мала, таксама прыбраць. Парашкоў на бруд не бывала, ніхто пра іх і не чуў нават, а бруду таго, ой, колькі было ў хатах нашых! Праўда, на работу ў гаспадарцы па вайне той было яшчэ каго наняць, чаму не, але не было за што. Сам жні, сам і з поля звозь, і малаці, і жывіну даглядай і так без канца, ад дня да вечара праз цэлы круглы год. Восем гадоў я так натужваўся, скулы ўзіму злечваючы, і не таму перадусім, што жонка памерла, але таму, што другі раз нешчасліва я ажаніўся быў, пра што, можа, раскажу...

Аўрора піша: жанчынам і ў вайну было **цяжка**, на сваіх плячах дровы насілі. А ці я кажу, што **лёгка**? Але чаму Аўрора змаўчала пра мужчын? Бо і салдацкая зямлянка не была „вілай з каларыферамі". Піша яна: мужык сам сабе і есці не возьме. Ну, не возьме, калі нашы жанкі першымі ахвотна прыносяць есці, то нашто другі раз самому ісці па ежу... Аўроры падумалася, відаць, што замуж выходзяць для таго, каб толькі перапаць з мужчынам. І думае яна, што калі б не прыносіць мужчыне есці, то ён ад голаду Богу душу аддасць...

У нас была такая гісторыя: каб хутчэй канчаць будову таго Семяноўскага заліва, прыслалі войска ў помач будаўнікам. Як толькі войска тое з'явілася, дык жанчыны нашы адразу пабеглі туды з намерам зарабіць грошай на гатаванні жаўнеры-

(Працяг на стар. 6)

рагатнуў, пачуўшы трапны жарт, ды і сам дакідаў слова ў гутарку. Аднак аніяк не мог адагнаць ад сябе прыкрыя згадкі. Ужо каторы дзень не-не ды зноў вярталіся думкі да апошняй размовы з бацькам. У вушах усё яшчэ стаялі яго словы: „Усюды здрада: у сваім жа родзе, у сям'і..." І ён увесь час губіўся ў здагадках, ці гэтыя горкія бацькавы нараканні тычацца толькі Бутаўта і Вайдуты, ці таксама яго, Вітаўта? Гэта ж не першы раз ён чуў ад бацькі такія намёкі. Раней такое не здаралася: пажурыць, бывала, стары, пазлуецца і, быўшы сам-насам, аблае апошнімі словамі, а калі меншым быў, то і па каняху заедзе, але ў здрадзе ніколі не падазраваў. А цяпер што раз, то і бубніць: „Здрада!.. Прадалі свае ж!.." А тут яшчэ той паганы крыжак падліў масла ў агонь... Няйнакш, усё пачалося з таго палявання каля Давідзішак...

Так, напэўна з Давідзішак.

Здаецца, што можна і гэтак уяўляць сабе набліжэнне самых трагічных падзей у Вялікім княстве Літоўскім. Бо як не намагаліся гісторыкі розных часоў і народаў, пачынаючы з беларускіх летапісцаў XV стагоддзя і канчаючы аўтарамі сённяшняга дня, даць ім аб'ектыўнае высвятленне, але, як найчасцей бывае з вузлавымі праблемамі ў гісторыі, кожны пішучы дае сваё тлумачэнне палявання Ягайлы, Вітаўта і Ягайлавага даверанага баярына Вайдылы разам з вядучымі дзеячамі крыжацкага ордэна каля Давідзішак у канцы мая 1380 года. У выніку яго, як вядома, Ягайла падпісаў з крыжакамі „дагавор аб вечным міры", які накіроўваў усе крыжацкія ўдары супраць Кейстутавых уладанняў, а з Ягайлы ўчыняў патаемнага саюзніка крыжакаў. Ці ведаў пра змест гэтага дагавору Вітаўт? Адны гісторыкі пазбягаюць даваць адказ на гэтае пытанне. Другія выгараджваюць Вітаўта ды ідуць следам за летапісцамі і звальваюць усю віну на Вайдылу, як таго, хто схіліў Ягайлу патаемна заключыць гэты дагавор і быў пасрэднікам у яго падпісанні. Трэція намагаюцца пагадзіць супярэчлівасць „ведаў" і „не ведаў".

Аднак усе факты далейшых падзей сведчаць пра тое, што Вітаўт добра ведаў пра гэтае пагадненне і, мабыць, удзельнічаў пры яго складанні ды прысутнічаў пры падпісванні. Ці не адчуваў ён сябе здраднікам роднага бацькі і Бацькаўшчыны? Не! Чаму? Таму што паміж Ордэнам і Вялікім княствам Літоўскім амаль штогод падпісваліся, нават па некалькі ў год, розныя пагадненні, дагаворы, акты з важнасцю на карацейшыя і даўжэйшыя тэрміны, але рэдка калі яны захоўвалі сваю моц, пераважна ніхто на іх не звяртаў увагі. Асабліва не бралі іх усур'ёз крыжакі. Чаму доказам падобны дагавор, які заключыў усяго год раней Кейстут (пры ўдзеле Ягайлы) з крыжакамі і паводле якога яны абавязаліся не нападаць на Чорную Русь і Падляшша; аднак праз некалькі месяцаў пайшлі здабываць Дарагічын!.. Затым Вітаўт, тады ўжо князь у сама меней 30-гадовым узросце, намагаўся весці незалежную ад бацькі палітыку, каб пры першай нагодзе заняць... бацькава месца і ролю ў Вялікім княстве Літоўскім. Пры тым ён слушна ўважаў, што і сёння і заўтра яго партнёр — гэта Ягайла, а не старэнькі, ужо 80-гадовы бацька. Шануючы бацьку, ён адначасова не забываў і пра сябе. Вітаўт быў прыроджаным дзяржаўным дзеячом і дыпламатам.

**І яго разважанні на шляху з Трок у Дарагічын засяроджваліся на тым, як умацаваць свой удзел — Гарадзеншчыну, Дарагічыншчыну і Берасцейшчыну — да падыходзячых падзей у Вялікім княстве Літоўскім. Ён нюхам палітыка згадваў набліжэнне перасілення ў дзяржаве. І не памыліўся.**

**Мікола Гайдук**

(Працяг са стар. 5)




кам снеданняў, абедаў і вячэр. Але паручнік пугнуў іх назад, кажучы: „Войска сваю кухню мае, лепей за вас згатуе і парадак за сабою ўтрымае!" Во як, шаноўная Аўрорачка. І як ты не вычаўпала на мужчын, а ўсё роўна ўрэшце пахвалілася, што жанчына можа быць раўнёю мужчыне. Аднак, бачыш, справа вось у чым: як якая жанчына з як якім мужчынаю, адна можа быць раўнёю, а іншая не можа быць, бо ўсё залежыць ад таго, хто і з кім раўняецца. Прыкладна, у космас той усяго адна жанчына злётала, і лётчыкаў з жанчын нешта малавата... Не варта, Аўрора, наракаць так вельмі на мужчын, хоць гэта праз жанчыну менавіта Бог прагнаў Адама з раю.

Яшчэ вярнуся я да таго знаходлівага дзеда, прачытаўшы пра якога наша Аўрорка не ведала, што і ўчыніць: а ці заплакаць, а ці зарагатаць?! Яна ані плакала, ані рагатала, як выяўляецца, бо горкія слёзы з салодкім смехам рэдка смакуюць. Прыгоду дзеда — з тым „пасвісцёлам" — Аўрора назвала ідыёцтвам і рагатлівай выдумкаю. Дзед, фактычна, мог быць трохі прыдзіцянеўшым, а дзеці, ну, як дзеці — калі і Аўроры што новае даць у рукі, то, таксама, зацікавіцца з сімпатыяй. А пра таго хабеля-хахаля дык, то — скажу я — ці ж людзі не бачылі „сабачага вяселля"? У жывіны сораму няма, бо сорам — гэта вынік культуры, прыродзе самой сорам у нічым не патрэбны. Зрэшты, у сённяшні час нават у тэлевізары магчыма пабачыць такое, што і бабнік з Задрыпанкі гатоў пачырванець...

Аўрора ўсё ведае: хто, як і дзе ды з кім жыве, а жыве, як рэчка цячэ, усё наперад, а не назад. Усе так жывуць, такая натура часу; нішто не варочаецца. Яна, нават, ведае і пра тое, што не было мяне на судзе аб разводзе... А я, Аўрора, меў другую жонку, і яна пакінула мяне зараз па вяселлі нашым ды паветрала кудысьці на захад, чапіўшыся палюбоўніка, а развод мне з ёю дала суддзя-жанчына, прызнаўшы вінаватаю менавіта жонку тую маю. Аўрора піша, што я нібы сам захацеў і разышоўся з жонкаю... Так я зразумеў Аўрору. Але не буду я Аўрору папракаць ды вышукваць і ў яе жыцці чорнае ды залатанае... Я разумею, што так рабіць гэта брыдка, непрыстойна.

Калі каму ўдасца жыццё, то такой пары і вадою не разальеш, і сабакамі не зацкуеш! А калі не ўдасца, то нічога не зробіш — абы прычына падлезе і бяда гатовая.

**Хведар Хлябіч**

### ЧАМУ?

Вёска Курашава, гміна Чыжы, мае электрычнае святло на вуліцы ў начы. Яго ўключае Ядўдокія або Лукаш Закройшчык. Больш за чатыры гады таму яны атрымлівалі за выкананне гэтага абавязку некалькі злотых. У апошнія чатыры гады нічога ім не плоцяць. Мо змяніліся правілы, ці ўлады гміны забыліся пра іх?

**Асот**

## МАНАСТЫРСКІЯ НАПЕВЫ

Два вельмі цікавыя царкоўныя заграничныя хоры прынялі ўдзел у VI Днях царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы ў маі бягучага года. Адзін з хораў — з Ленінграда, другі — з Сафіі, сталіцы Балгарыі.

Хор Рускай праваслаўнай царквы з Ленінграда працуе нядоўга, але ўжо дасягнуў вышынь мастацтва. У ім спявае дзесяць чалавек. Гэта студэнты і выкладчыкі духоўных школ гэтага вялікага і прыгожага горада.

Спявалі натхнёна. У іх праграме манастырскія напевы Опцінай пустыні і Кіева-Пячэрскай лаўры.

Асабліва моцнае ўражанне на слухачах пакінула Ірына Іванова — дырыжор хору, якая на заканчэнне конкурснага выступлення пад ціхі акампаніямент хору моцным і чыстым сапрана праспявала „Хрыстос васкрэсе". Песня скончылася, а голас салісткі ўсё яшчэ звінеў у цішыні пад высокім купалам гайнаўскай царквы.

Ірына Іванова па прафесіі выкладчык на рэгенцкім аддзяленні Ленінградскай духоўнай акадэміі, дзе на будучых рэгентаў вучацца таксама дзяўчаты.

Мужчынскі хор з Сафіі запаланіў слухачоў галасамі — ад найвышэйшых да самых нізкіх, грымучых басоў, слухаючы якіх проста адбірае дух. Балгары ўвогуле славяцца моцнымі галасамі і асабліва басамі. Усю радасць ад слухання такіх галасоў маглі адчуць слухачы ў Гайнаўцы.

Хор называецца „Іаан Кукузэл — Ангелагласнят". Назву сваю ўзяў ад старабалгарскага кампазітара Іаана Кукузэла, другая частка назвы абазначае — „анельскія спевы".

Калектыў выконвае ў асноўным творчасць свайго патрона, але таксама і іншых старабалгарскіх кампазітараў — Неафіта Рыльскага, Ксенафонта Рыльскага, Калістрата Заграфскага.

Спявае напевы манастыроў: Рыльскага, Тырнаўскага, Яленскага. Пабываў з канцэртамі ў многіх краінах, наіграў пяць доўгаіграючых грампласцінак.

Дырыжор хору — выкладчык музыкі ў Духоўнай акадэміі ў Сафіі і галоўны дырыжор хору Кафедры святога Аляксандра Неўскага — Дзмітрый Дзмітраў (на здымку ён пяты справа).

(вв)

Фота В. Завадскага



Камерны мужчынскі хор з Сафіі.

(Працяг са стар. 3)

### ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА З'ЕЗДА

лютна польскамоўную, знайшлі самі сябе, не загубіліся. Якраз няспыннымі пошукамі, праз розныя раздарожжы, непакоі, у інтэлектуальным і эмацыянальным напружанні знайшлі сваю беларускасць.

З'езд студэнтаў не быў святам. Калі хто хоча, можа пабачыць, як узмоцнілася праца беларускіх студэнтаў пасля з'езда, як ён узмоцніў беларускіх студэнтаў! Аб сваіх справах яны адважна і крытычна пішуць у „Ніве" на сваёй старонцы „Прысутнасць" і ў сваім студэнцкім часопісе „Сустрэчы". Яны пішуць пра сябе патрабавальна, не любяць лакіроўкі і паводзін жабрака. На гэта яны маюць права. Яны ведаюць канстытуцыю нашай дзяржавы, свае правы і абавязкі. Іх уздым вызначае новы перыяд у працы Беларускага таварыства. Гэта выйдзе толькі на карысць беларускай культуры.

Варта было б шырэй прыпомніць падобныя ўздымы сярод беларускіх студэнтаў на пераломе дзесятых гадоў нашага стагоддзя, які разгарнуўся ў Варшаўскім універсітэце вакол прафесара Я. Карскага. Або другі прыклад уздыму ў асяроддзі беларускіх студэнтаў у Віленскім універсітэце ў міжваенныя гады. Што ж, калі не хочуць старэйшыя, у мяне просьба да беларускіх студэнтаў, займіцеся, маладыя сябры, гэтай тэмай і пакажыце нам тыя цікавыя факты...

Я ўпэўнена, што беларускія студэнты і ў наш час стануць моцным звяном, авангардам у працы на культурна-асветнай нацыянальнай беларускай ніве ў Польшчы.

**Вера Валкавыцкая**

(Працяг са стар. 1)

### ВЫНАХОДНІЦТВА І РАЦЫЯНАЛІЗАТАРСТВА Ў „ФАСТАХ"

Галіны Песецкай, Яўгеніюша Руткоўскага, Аліцыі Ляшчэўскай і Аліцыі Кэмпэ.

Да аднаго з большых вынаходстваў у „Фастах" залічваецца і праект выкарыстання адпадкаў валакна з-пад часальных машын. Гэта дазволіла ашчадзіць 29 тон валакна на суму 5 мільёнаў зл. Гэтае рашэнне здзейснілі Ежы Глушак, Мар'ян Ваховец і Казімір Цецюль.

Варта адзначыць тое, што „Фасты" належаць да найбольшых прадпрыемстваў у тэкстыльнай прамысловасці краіны і высока цэняцца іх вырабы ў Польшчы і за граніцаю. У мінулым годзе „Фасты" выпрадукавалі 58 мільёнаў метраў рознага роду тканін, гэтай колькасцю можна было б больш за паўтара раза апаясаць зямную кулю.

**Міхась Хмялеўскі**

## КАБ СТОНКА СКАНАЛА

У пятніцу пайшла я ў СКР, каб „выстаяць" там апырскванне бульбы. Кіраўнічкі, гэтай нашай „эскаэрыхі", яшчэ не было ў канцылярыі (на якую перарабілі стары пасажырскі вагон). Але ўжо сядзеў у ёй стораж ды трохі кліентаў. Толькі адзін з кліентаў прыйшоў сюды так, як і я, значыць: бульбу ратаваць ад „стонкі". А іншыя — каб лугі ім пакасіць.

Не прычакаўшы хутка „эскаэрыхі", выбегла я дамоў на дзяцей сваіх малых глянуць, ці не счаўплі яны чаго, і калі вярнулася назад, людзей тут стала, вядома, больш.

— Ці будуць сёння пырскаць атруту на „стонку", што абсела бульбу?

— Калі будзе пагода, то будуць, а калі не, то не, — пачулі мы ў адказ.

І тут увайшла ў канцылярыю жанчына з Тарнопаля. Яна ўжо ад парога загаварыла да „эскаэрыхі":

— Я прыйшла пасварыцца з табою, Ганулька. У сераду ўсім вы ў Тарнопалі бульбу апырскалі, а маю — не, абмінулі. У суседзяў маіх „стонка" канае, хоць ты яе граблямі заграбай, а на маёй бульбе жыве яна і пажывае, жменяй браць можна яе. Таму я ўжо адсюль, ад цябе, нікуды не пайду і не выйду, аж пакуль не паедзеце апырскаць мой загон!..

— Ну, добра, ну, ціха, — сказала кіраўнічка-„эскаэрыха". — Папырскаем і вам...

Яшчэ даўшы нейкія наказы сваім фахманам, — узяла і змылася на нейкую нараду ў Нараўцы. Пабачыўшы такую справу, давай я хадзіць за трактарыстам, які меўся пырскаць на „стонку" ў Семяноўцы. І ўсё прасіць яго, каб першай зрабіў тое мне.

— Як я табе магу першай? — бурчаў трактарыст. — Сама глянь, колькі народу трэба мне сёння абслужыць...

А я яму тлумачу:

— Мая бульба зусім блізка адсюль, не трэба далёка ехаць, — і ўсё прасіла, і маліла яго, бы мужык даўней пана якога!

— Зрабі ёй, — заступіліся за мяне і бабы семяноўскія. — То ж у яе дзеткі маленькія, і сама яна, і нямаш з кім пакінуць тую драбноту!..

І я не сціхала са сваімі просьбамі, амаль малітоўнымі.

— Ну, няхай, — азваўся, урэшце, наш трактарыст-дабрадзей, хоць ты яму за гэта абедню закупі ў царкве ў падзяку.

Ён і папырскаў на „стонку". І сканала яна, бы трутні тыя пад восень каля вулеяў у садзе.

І буду я мець бульбу.

**Аўрора**

 

# РАСКЛАД РУХУ АЎТОБУСАЎ ПКС СА СТАНЦЫІ БЕЛЬСК-ПАДЛЯШСКІ

| Прыезд | Кірунак | Ад'езд |
|---|---|---|
| | **Адрынкі** цераз Градочна, Нараў | 5.00 |
| 18.30 | **Адрынкі** ц. Нараў | |
| 6.20в, 17.30, 15.50 | **Альшэва** ц. Бадакі | 4.50, 14.10, 16.00в 4.20а, 5.55в, 6.25ев |
| 6.15ав, 7.46, 1.17с, 7.47сзк, 8.37с, 9.35, 9.45а, 10.45, 11.37с, 12,25, 13.35, 14.15, 14.35, 14.47с, 15.15, 15.21ев, 15.44, 15.47се, 16.05, 16.15, 17.36а, 17.51е, 18.45, 21.55е | **Беласток** ц. Заблудаў | 6.55в, 7.40с, 7.50, 7.55ав, 8.40, 8.53се, 9.25а, 9.55, 10.00. 10.40, 11.05с, 12.30е, 13.00, 13.25, 13.45, 14.40ав, 15.15в, 15.45д, 16.10а, 17.28с, 18.30е, 18.50,18.55, 19.00с, 22.15 |
| 9.44, 11.14е, 14.54е, 15.24д, 16.14, 16.34ме, 16.54, 22.14 | **Беласток** ц. Юхновец | 4.30, 7.35в, 8.10, 11.15, 12.00е, 16.50ме |
| 15.48 | **Беласток** ц. Орлю, Кожына | 6.00 |
| 8.27, 11.37, 16.36д, 21.47 | **Беласток** ц. Мулявічы | 8.15, 17.00 |
| 16.41в | **Беласток** ц. Пасынкі, Кожына | 8.15 |
| 17.58е | **Беласток** ц. Бранск, Лапы | 5.55в |
| 8.49а | **Беласток** ц. Вышкі, Лапы | 14.15а |
| 7.54а, 9.13а, 11.34 15.13, 16.54а, 18.14 | **Беласток** ц. Рэпнікі | 5.15а, 8.20аб, 11.45, 14.00а, 15.25 |
| | **Белавежа** ц. Гайнаўку | 5.45 |
| 18.44 | **Белавежа** ц. Гайнаўку, Буды | 7.50 |
| 7.39в, 11.43, 16.38 | **Бранск** ц. Кашэва | 6.00в, 10.00, 15.00, 18.50 |
| 6.24, 6.49, 7.34, 7.45, 8.19а, 9.19, 10.44, 12.44, 13.44, 14.20, 14.34мб, 16.04, 16.34, 17.58, 19.35 | **Бранск** ц. Кадлубоўку | 6.20, 7.30, 8.00, 8.45, 10.40, 13.10, 13.10мб, 13.50, 14.20, 14.40, 15.15, 16.20, 16.45 |
| 5.48 | **Бранск** ц. Вышкі, Гадышэва | 17.00 |
| 10.05, 11.00с, 18.34ілс, 18.55с | **Белая-Падляшская** ц. Сямяцічы | 7.20с 12.00, 14.50с |
| 15.50 | **Боцькі** ц. Бадакі | 14.10 |
| 6.49в, 7.34в, 9.19а, 9.49, 10.49д, 12.44, 13.44а, 16.04а, 19.35 | **Цехановец** ц. Бранск | 6.20ав, 7.30ав, 8.45а, 10.40а, 13.10а, 13.50д, 15.25ев, 16.45 |
| 9.08, 15.38 | **Храбалы** ц. Вышкі | 6.45 |
| | **Храбалы** ц. Стрыкі. Вышкі | 13.30 |
| 9.27, 13.26, 17.24 | **Дубічы-Царкоўныя** ц. Орлю, Мора | 5,25, 7.40, 12.00 |
| 9.15а, 15.55а | **Дубічы-Царкоўныя** ц. Орлю, Рудку | 7.50а, 14.30а |
| 7.26 | **Драгічын** ц. Гродзіск, Гадышэва | 16.20 |
| 16.35 | **Гадышэва** ц. Вышкі | 4.40 14.30в |
| 10.24а, 16.24а | **Гадышэва** ц. Бранск, Зані | 8.00ав, 13.40а |
| 6.34, 9.54ш, 13.09, 16.17, 18.19, 18.44 | **Гайнаўка** ц. Галады | 5.15, 5.45, 5.55, 7.50, 10.45, 11.50, 14.00, 17.00 |
| 7.34ав, 10.49аб, 14.19ав | **Гайнаўка** ц. Локніцу | 8.15а, 14.30ав |
| 17.52в | **Гайнаўка** ц. Кленікі, Чыжы | 5.25 |
| | **Гайнаўка** ц. Кляшчэлі | 12.20а |
| | **Гайнаўка** ц. Нараў | 4.20а |
| | **Гайнаўка** ц. Орлю, Дубічы-Царкоўныя | 5.25, 15.30в |
| 16.57,19.27 | **Гайнаўка** ц. Тышевічы Мал. | 4.50аб |
| 6.13, 6.43, 7.39, 9.18а, 15.08, 15.58, 17.33а | **Кляшчэлі** | 7.00, 8.00, 13.57, 16.10а 17.05, 17.20 |
| 17.37в | **Лапы** ц. Фалькі, Вышкі | 5.30в |
| 7.32 | **Кожына** | 6.30 |
| 9.24, 16.39 | **Краснае Сяло** | 8.10,15.25 |
| 11.00с, 18.55с | **Люблін** ц. Белую-Падляшскую | 7.20с, 14.50с |
| 7.45в, 17.58 | **Лапы** ц. Бранск | 5.55в, 14.20ав |
| 7.21, 7.45, 8.49 | **Лапы** ц. Пульшы, Вышкі | 5.00а, 14.15а 15.15 |
| 7.16вг, 9.36, 10.35 г. 15.40ві | **Мілейчыцы** ц. Боцькі, Сабятын | 7.25вг, 11.35, 13.35, 15.55 |
| 5.45а, 6.30в, 7.35ав, 11.05, 13.10, 17.00е 18.30 | **Нараў** ц. Кленікі | 4.00а, 4.20, 5.45а, 7.50, 11.15, 15.10ев, 16.15в 18.40 |
| 9.58, 14.43 | **Нараў** ц. Градочна | 5.00, 12.25г |
| 5.23а, 6.13а, 7.53, 9.27, 10.48, 12.28д, 13.26, 14.53, 17.08, 17.24, 20.33, 23.03 | **Орля** | 4.40а, 5.25, 5.30а, 6.50, 7.40а, 10.00, 11.30д, 12.00, 13.50, 16.20, 19.45, 22.20а |
| 7.38, 14.04а, 18.03 | **Орля** ц. Спічкі | 6.35, 13.15а, 16.55 |
| 7.40, 13.14, 20.44 | **Плёскі** ц. Храбалы | 6.45, 8.10, 14.30в |
| 9.09а, 15.29 | **Плёскі** ц. Пасынкі | 12.15, 19.45 |
| 8.25г, 14.25г | **Петшыкова** | 7.50г, 13.50г |
| 6.24в | **Рудка** ц. Бранск | 16.20в |
| 17.32а | **Рыбакі** ц. Нараў | 5.30а |
| 7.38в, 18.03 | **Рэдуты** ц. Орлю, Спічкі | 6.35в, 16.55 |
| 7.48аб, 13.53аб | **Райск** ц. Храбалы | 6.55аб, 13.00аб |
| 21.43а | **Шэпятова** ц. Бранск | 18.50а |
| 8.50ес, 17.25с | **Седльцы** ц. Сямяцічы | 8.40с, 15.50ес, 17.55 |
| 5.15а, 6.05ав, 6.35 в, 7.30в, 7.35с, 8.35, 10.37, 11.00с 12.25е, 13.20, 14.35ав, 15.20, 16.34в, 16.55, 18.15, 18.50, 18.55с, 20.55 | **Сямяцічы** ц. Дзядковіцы | 5.25ав, 6.20ав, 7.00с, 7.50, 8.00, 9.50а, 10.00, 10.50, 11.00, 11.40с, 14.40. 14.50с, 15.15в, 16.20, 17.35, 21.20, 22.20 |
| 6.13ев, 6.43ав, 7.39, 15.58в | **Сямяцічы** ц. Кляшчэлі | 7.00ев, 8.00а, 17.05, 17.20 |
| 7.45в, 14.20г | **Сямяцічы** ц. Бранск, Гродзіск | 8.00, 14.40в |
| 7.16авг, 9.36аг | **Сямяцічы** ц. Сабятын | 11.35аг, 15.55вг |
| 8.25в, 13.55 | **Сямяцічы** ц. Боцькі, Сельц | 9.00, 14.20 |
| 11.48г | **Сямяцічы** ц. Боцькі, Выганова | 13.45 |
| 6.31, 8.36аш, 16.06 | **Стрыкі** | 5.55а, 8.00аш, 15.3[illegible] |
| 7.53в, 9.27, 13.26 | **Стары Корнін** ц. Орлю | 6.50, 7.40, 12.00 |
| 7.37, 18.07 | **Страбля** | 6.40, 15.10 |
| 16.17а | **Тапіла** ц. Гайнаўку | 5.55ав |
| 11.18а | **Тапчэва** ц. Вышкі | 9.40а |
| 11.00, 14.45 | **Тапчэва** ц. Буйнова | 9.00, 12.45 |
| 7.45авб | **Тыкацін** ц. Лапы, Саколы | 15.15 |
| 18.47дс, 20.37с | **Варшава** ц. Востраў-Мазавецкую, Вышкаў | 5.30дс, 7.10с |
| 17.37 | **Высокі-Мазавецк** ц. Лапы, Саколы | 5.30в |
| 9.01 | **Вышкі** ц. Лубін-Касцельны | 13.45 |
| 14.56, 17.37в | **Вышкі** ц. Аўгустова | 5.30, 7.50 |
| 9.27 | **Войнаўка** ц. Орлю, Дубічы-Царкоўныя | 7.40в |

а — ходзіць у рабочыя дні
б — ходзіць у рабочыя суботы
в — першынство для пасажыраў з месячнымі білетамі
г — ходзіць, калі добрая дарога
д — не ходзіць 1987.12.25, 1988.01.01 і 1988.04.03
е — не ходзіць 1987.12.25 і 1988.04.03
ж — не ходзіць у дні дадаткова вольныя ад работы
з — ходзіць у панядзелкі
і — ходзіць у пятніцы
к — ходзіць у суботы
л — ходзіць у нядзелі
м — ходзіць у святы і нядзелі
ш — школьны
с — скоры

## КРОК У КРОК СА СВЕТАМ

Неяк так ужо сталася, што калі вымаўляем слова „Беларусь“, перш за ўсё явіцца перад нашымі вачыма вёска з яе фальклорам, якоесьці народнае адзенне, ці бабуліна песня. Адным словам — забытае, былое, ужо несучаснае. А цяперашняе? Якое яно? Яно пераважна беларускае толькі ў форме, а ў змесце ўжо не — нейкі фасад. Апошнім часам знікае і ён і, маўляў, выходзіць шыла з мяшка. Беларуская культура гіне проста на вачах, не вытрымліваючы канкурэнцыі з суседскімі ці то рускай ці польскай. І выглядае, што гэты працэс будзе паглыбляцца, бо ж сучаснае, мадэрнае ўваходзіць на Беларусь у чужой мове. Адсталасць, калі можам гэтае слова ўжыць, беларускай культуры паглыбляецца ў вялікай ступені адсутнасцю роднай мовы ў буйнейшых дзялянках жыцця. Тое, што ў іншых краінах і рэспубліках Савецкага Саюза выглядала б зусім нармальным, у беларускім варыянце з'яўляецца нейкім дзівосам, чымсьці немагчымым для ўяўлення.

Вельмі цяжка не аднаму з нашых родзічаў тэарэтычна ўявіць, не гаворачы пра практыку, прыкладова — багаслужбу пабеларуску. Неяк звыкліся мы, што ў царкве гаворыцца паруску ці па-польску. Дый змены лічыліся б, бачыце: „лішнімі“, „непатрэбнымі“, „навошта гэта“, „як будзе гэта выглядаць“, ці „дастойна“ так „па-просту“, скажам, маліцца? Што ж, проста не ведаючы прыгажосці свайго, цяжка ім даражыць. Калі я першы раз пабываў на такім беларускім багаслужэнні, мне пачаткова яно здавалася нечым дзіўным, смешнаватым, але і адначасова інтрыгуючым, штосьці быццам кранула маё сэрца. Другі раз было ўжо менш дзіўна, а чарговыя наступныя разы ўспрымаліся зусім нармальна, звычайна ўжо — так як павінна быць.

Таксама падобныя змешаныя адчуванні паўстаюць пры слуханні сучаснай рок-музыкі з яе шматлікімі адценнямі. Колькі ж можам прыгадаць беларускіх рок-выканаўцаў? Няшмат, а і тыя, якія дзейнічаюць, яны абапіраюць свой рэпертуар на фальклоры. Чагосьці накшталт заходнееўрапейскіх ці амерыканскіх плыняў амаль і няма. Чаму? Мне хтосьці скажа, што заходняя культура знішчыць мясцовую, як гэта час ад часу можна пачуць. Якраз зусім наадварот! Ні тое, што ў Францыі ці ФРГ моладзь гуляе ў рытм англамоўнай музыкі, ні нават тое, што амаль усе польскія рок-ансамблі прасякнуты гэтай плынню, зусім не абазначае, што культура музыкі неангламоўных краінаў гіне. Хутчэй за ўсё яна, умела карыстаючыся дасягненнямі іншых, выдатна

(Працяг на стар. 11)



 

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




(Заканчэнне
Пачатак у папярэднім нумары)

— Грыбы, дык грыбы, — узяў малодшы кошык і пайшоў у лес. Кошык на сук павесіў. Сярэбраны свісток дастаў, свіснуў. Тут, адкуль не вазьміся, — прыляцеў сярэбраны конь пад сярэбраным сядлом, на сядле — сярэбраная вопратка. Апрануў яе малодшы брат і зрабіўся такім прыгожым, якога яшчэ свет не бачыў, шапку мядзведжую на адно вуха насунуў і памчаўся да шкляной гары.

Шмат было малайцоў каля гары, ды ніхто і да палавіны не ўз'ехаў. Шкло — як па ім узбірацца? Многія ўжо скаціліся з той гары ды насы паразбівалі, народу на пацеху. Вылецеў наш хлопец на сярэбраным кані з лесу, памчаўся да гары, як вецер, зазіхацелі іскры з-пад капытаў, калі ўзляцеў ён на шкляную гару — ахнуў народ, крактануў кароль, зайшлося сэрца ў прынцэсы, скрывіліся іншыя жаніхі, ды не хапіла ў каня сілы — толькі да палавіны даскакаў, павярнуў назад і схаваўся ў лесе. Адпусціў наш хлопец каня, зняў з сябе сярэбраную вопратку. Узяў кошык, назбіраў грыбоў і павалокся дадому. Пасмяяліся з яго браты. Паслухаў ён іх словы пра сярэбранага прынца, які ледзь быў да прынцэсы не дабраўся, і кажа:

— Ледзь-ледзь не лічыцца!

Адказваюць яму браты:

— Што ты, дурань, разумееш! Перабірай лепш свае грыбы!

На другі дзень зноў браты падаліся да шкляной гары, не для таго, каб самім паказацца, а хаця б на іншых падзівіцца. Папрасіўся з імі і малодшы брат, ды яны насварыліся на яго і загадалі ў ягады схадзіць і кісялю зварыць.

— Ягады, дык ягады, — узяў хлопец кошык і пайшоў у лес. Кошык на сучок павесіў. Дастаў залаты свісток. Свіснуў. Адкуль ні вазьміся, прыляцеў залаты конь пад залатым сядлом, на сядле — залатая вопратка. Апрануў яе малодшы брат і зрабіўся яшчэ прыгажэйшым, чым учора. Шапку з куніцы на вуха насунуў і памчаўся да шкляной гары — сваё шчасце шукаць.

Паменшала каля гары малайцоў — пабольшала разбітых насоў. Не так ужо бойка малайцы на гару скачуць. Вылецеў тут наш хлопец на залатым кані з лесу, як сонечны прамень, з-пад капытоў — агонь! Узляцеў на шкляную гару. Ахнуў народ, закракталі жаніхі, кароль ледзь не падавіўся, прынцэса ўжо і сама руку працягвае — прыйшоўся ёй па сэрцы залаты хлопец, — ды не хапіла сілы ў каня, павярнуў ён назад, а вось-вось схапіць бы пярсцёнак! І зноў схаваўся конь у лесе. Наш хлопец зняў з сябе залатую вопратку, адпусціў каня, ягад назбіраў, дадому павалокся. Прыехалі браты. Паслухаў ён іх словы пра залатога прынца, які ледзь быў з рукі прынцэсы пярсцёнак не зняў, і кажа:

— Ледзь-ледзь не лічыцца!

Адказваюць яму браты:

— Што ты, дурань, разумееш! Вары лепш свой кісель!

На трэці дзень браты зноў збіраюцца да шкляной гары — вельмі ўжо хочацца паглядзець, хто ж пярсцёнак з рукі прынцэсы здыме. Папрасіўся з імі і малодшы брат, ды адмахнуліся яны ад яго — і слухаць не захацелі, загадалі па дровы схадзіць ды лазню нагрэць: папацелі браты за гэтыя дні, захацелася памыцца.

— Дровы, дык дровы, — узяў хлопец вяроўку ды пайшоў у лес. Вяроўку на сучок павесіў.

(Працяг на стар. 10)

**Станіслаў Кацуба**

### ЖНІВЕНЬ

Жнівень шчодра, звычліва
Грэе ласкай праменнай
Даль шырокую, ніву,
Бор стары, задумённы.
Налівае рабіны
Жнівень сокам гаркавым,
Цягне ключ жураўліны
Над стагамі, атавай.
І дзяцей клапатліва
Ён трымае ў даглядзе.
Сакавітым налівам
Іх частуе у садзе.



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"

Дзякую табе, што змясціла на сваіх старонках мой першы артыкул. Мой тата, Андрэй Ялоза, быў на з'ездзе карэспандэнтаў. З апавядання яго аб з'ездзе мне вельмі было прыемна пачуць той факт, што рэдактар Вера Валкавыцкая ўголас на з'ездзе прачытала мой артыкул з „Зоркі".

Цяпер хачу напісаць Табе, што ў мяне ёсць новая сяброўка Еася Герасімюк. Я з ёю пазнаёмілася нядаўна, калі мы разам былі на экскурсіі ў Гданьску. Яна вучыцца ў школе ў Махнатым. Мае добрыя ацэнкі. Мы з ёю перапісваемся. Пішам сабе аб розных рэчах. Мне хацелася б мець больш такіх сяброўак.

**Мажэна Ялоза**
Барысаўка 42
17-212 Ласінка

**Уладзімір Дубоўка**




Жыла-была сіротка.
Яе ўсе звалі Ліля.
Ні маткі, ані цёткі —
уся радня ў магіле.

Хадзіла бесхацінкай.
Рабіла, колькі змогі.
Прыгожая дзяўчынка,
ды надта ж лёс убогі.

Адна ліхая ведзьма,
найменнем Ягавіца,
усцешылася вельмі,
што можа тут спажыцца.

— Ідзі да нас у дзеці,
чым ля вуглоў туляцца.
Не маеш долі ў свеце,
у нас заробіш працай.

Адзенне і абутак
дадзім табе за тое.
Забудзешся пра смутак,
пра ўсё жыццё благое.

А ў той ліхой кабеты
дачка была пачвара, —
ўсе матчыны прыкметы,
„два чаравікі — пара".

На галаве не косы,
а дроцікі, як быццам.
Праз гэта дасталося
імя ёй — Драцяніца.

Пазнала Ліля скора
цацанкі-абяцанкі.
Якое гэта гора
у ведзьмаў быць служанкай!

Не скардзіцца, не плача.
хто ёй паспагадае?
У жыцці сваім бядачым
адну уцеху мае.

Да возера як прыйдзе
ды сядзе над вадою,
спявае аб горкай крыўдзе
пачне часінай тою:

„Расцвіла каліна
ў лесе пры грудочку
парадзіла маці
няшчасную дочку

Парадзіла яе
цёмненькае ночкі,
дала лічка бела,
сіненькія вочкі.

Не дала ёй маці
толькі светлай долі.
Не расцвёўшы вяне,
як былінка ў полі".

Як срэбныя званочкі,
звініць сіроткі песня,
ідзе ва ўсе куточкі,
ўзлятае ў паднябессе.

Як гляне Драцяніца
на косы сіраціны,
пачне аж калаціцца,
што горкая асіна.

Шавецкаю смалою
да Ягавіцы ліпне:
— Як Ліліны красою,
такія вось далі б мне. —

А Ягавіца тая
за Лілю і адразу
касу яе хапае,
каб адабраць акрасу.

Спалохалася Ліля.
Змагацца з ёй не можа.
Але ж і пры бяссіллі
ды розум дапаможа.

Прыкінулася ціхай,
слухмянаю такою:
— Якога вам тут ліха
спяшацца так з касою!

Абрыдла мне краса ўся!
А косы — што з іх маю?
Каб хто калі пытаўся,
даўно б іх аддала я.

Але раней памыю,
каб дар быў бездакорны,
на косы залатыя
ліну вады азёрнай.

Пусціце! Неўзабаве
вярнуся я з вадою.
Тады мы ўсё і справім
удзвюх з тваёй дачкою. —

Бярэ яна гарлачык,
каб ім вады прынесці.
А Драцяніца скача,
пачуўшы тыя весці.

*Заканчэнне будзе.*

# АДКУЛЬ УЗЯЎСЯ ЯНТАР

Даўным-даўно ў старажытнай Грэцыі жыў бог Сонца— Геліёс. У яго канюшні стаяла тройка цуда-коней. Геліёс кожную раніцу запрагаў сваіх коней і ехаў у дарогу — з усходу на захад. Даваў людзям і ўсяму жывому цяпло і святло.



Сын Геліёса — Фаэтон часта ездзіў з бацькам. Аднойчы ён папрасіў: „Бацька, дазволь мне сёння самому правіць тваім возам". Геліёс падумаў і сказаў: „Ну, добра. Ты хочаш быць самастойны, толькі будзь асцярожны, коні гарачыя, а ты малады".



Фаэтон сеў і паляцеў уверх і адразу засвяцілася сонца, зніклі цені ночы. Хлопец захапіўся яздой і яму захацелася імчацца яшчэ хутчэй. І... збіўся з дарогі, коні перасталі слухацца павадоў. Сонечны воз падаў уніз... Так і загінуў адважны хлопец.

Геліёс моўчкі перажываў гора. Але яго дочкі Геліяды так плакалі па брату, што замяніліся ў плакучыя івы, а іх слёзы — у кропелькі янтару. Янтар — слёзы сонца.

Янтар — найбольш выступае на пабярэжжы Чорнага і Балтыйскага мораў. Значыць, над землямі паміж гэтымі марамі слязьмі сонца плакалі з неба Геліяды. Падабалася Геліёсу і ягоная сям'і і наша беларуская старонка, над якой лётаў ён і яго адважны сын — Фаэтон.

А хто з вас не хацеў бы паляцець да сонца, хоць і небяспечна гэта? А можа хто і паляціць, калі падрасце?



(Працяг са стар. 9)




Дастаў дыяментавы свісток. Свіснуў. Адкуль ні вазьміся, прыляцеў дыяментавы конь пад дыяментавым сядлом, на сядле — дыяментавая вопратка. Апрануў яе малодшы брат — ну прыгожы ж хлопец! — насунуў на вочы шапку з куніцы і памчаўся да шкляной гары — сваё шчасце ўзяць.

Малайцоў каля гары зусім мала — тут жа і шыю скруціць нядоўга! Вылецеў наш хлопец на дыяментавым кані з лесу, як маланка, і ўзляцеў на шкляную гару. Ахнуў народ, прынцэса — ні жывая і ні мёртвая, жаніхі раты разявілі, кароль пасаг ужо лічыць — колькі аддаць прыйдзецца! Зняў наш хлопец з рукі прынцэсы пярсцёнак, пацалаваў яе проста ў губы, павярнуў каня і схаваўся ў лесе. Зняў з сябе дыяментавую вопратку, адпусціў каня, надзеў пярсцёнак прынцэсы на палец, анучкай абвязаў, каб не было відаць, галляназбіраў, дадому пайшоў. У братоў — размоў поўны рот, усё больш пра тое, што знялі пярсцёнак з рукі прынцэсы, ды шкада, што не яны!

— Знялі, дык знялі! — кажа малодшы брат.

— Што ты, дурань, разумееш, — адказваюць яму браты. — Ідзі, лепш лазню нагрэй як след!

Ну, чакае кароль зяця, прынцэса — мужа, а той, хто пярсцёнак з яе рукі зняў, — не ідзе і не ідзе. Узлаваўся кароль, загадаў запрасіць усіх, у каго хоць які-небудзь пярсцёнак быў. Народу прыйшло шмат, ды патрэбнага пярсцёнка ні ў каго не відаць! І старэйшыя браты нашага хлопца таксама пайшлі да караля са сваімі пярсцёнкамі. У некаторых запрошаных усе пальцы ў пярсцёнках — і ўсё не тыя! Прынцэса кожнаму ў твар глядзіць, сэрцайка яе калоціцца — дзе ж, дзе ж яе суджаны, у каго, у каго яе пярсцёнак? Бачыць: стаіць убаку хлопец з перавязаным пальцам — загадала развязаць. Развязаў хлопец палец — заззяў яе пярсцёнак.

Пачалі тут старэйшыя браты крычаць, што малодшы брат іх — зусім дурань, што каштоўны пярсцёнак ён, відаць, украў! А прынцэса хлопцу ў вочы глядзіць і не дыша, — бачыць, гэта той, які не толькі пярсцёнак, а і сэрцайка яе ўкраў! Кароль не ведае, каму верыць, каму не, — галавой круціць, ажно шыя забалела.

Дастаў тут хлопец свае свісткі. Свіснуў у адзін — з'явіўся тут сярэбраны конь, свіснуў у другі — з'явіўся конь залаты, свіснуў у трэці — дыяментавы тут як тут.

Старэйшыя браты крычаць — украў! Жаніхі крычаць — дзе ўзяў? Кароль на коней дзівіцца — лоўкія коні! — ды падумвае — чые?

Расказаў тут наш хлопец, як дасталіся яму коні ад бацькі. Братоў ад сораму, нібы ветрам садзьмула, ды іх ніхто і не трымаў. Кароль яшчэ б раздумваў, ды прынцэса ад нашага хлопца вачэй адвесці не можа, а народ крычыць сваё:

— Тут і думаць няма чаго! За ўвесь век прынцэсе сапраўды муж трапіўся!

А што народ кажа — тое праўда!

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

Дзяўчынка напісала пісьмо сяброўцы:

„Дарагая Аня! Прабач, што я забылася пра твой дзень нараджэння. Будзе справядліва, калі і ты не ўспомніш пра мой, які будзе ў наступную сераду".

* * *

Бацька спытаў:

— Дзе твой дзённік, сынок?

— Я аддаў яго Валодзю, — сказаў Стась. — Ён хоча напалохаць сваіх бацькоў.

* * *

— Тата, ведаеш, колькі зубной пасты ў тваім цюбіку?

— Не ведаю.

— Два метры і чатыры сантыметры. Я толькі што змераў.

* * *

— Ты не бойся, — супакойвае маці сына перад кабінетам зубнога ўрача. — Нічога тут табе не зробяць.

— Тады чаго мы сюды прыйшлі?

* * *

— Тата, колькі жывуць мышы?

— Гэта залежыць ад катоў, сынок.

* * *

Міліцыянер затрымаў маленькага хлапчука.

— На якой вуліцы ты жывеш?

— Я не жыву на вуліцы, я жыву ў хаце! — адказаў хлапчук

* * *

Трохгадовая Ірынка мяшае лыжкай суп, глядзіць, як віецца пара над талеркай.

Бабуля пытаецца:

— Унучка, чаму ж ты не ясі?

Ірынка адказвае:

— З супу пыл ідзе.

## ГУЛЬНЯ

### ГАРАДЫ

Гульню можна праводзіць у памяшканні або на пляцоўцы, вакол якой ёсць месца для сядзення. Колькасць гуляючых неабмежаваная.

Гуляючыя па дамоўленасці або лічылкай выбіраюць вядучага — адгадчыка, які выходзіць у суседні пакой або адыходзіць убок. Затым кожны гуляючы выбірае для сябе назву якога-небудзь горада, усе садзяцца і клічуць адгадчыка:

Гарадоў прыгожых многа,
Ты знайдзі да іх дарогу,
Лепшы горад выбірай
Ды хутчэй называй!

Адгадчык адгадвае тры разы (можна адзін) і, калі адгадае, мяняецца месцамі з тым гуляючым, які ўзяў назву адгаданага горада. Калі не адгадае, яму гавораць:

— Ну і ад'язджай у свой... (Указваецца назва апошняга горада, названага адгадчыкам).

Адгадчык адыходзіць, астатнія гуляючыя выбіраюць сабе назвы іншых гарадоў, і гульня паўтараецца.

Гуляючыя могуць выбіраць назвы гарадоў аднай краіны, або толькі сталіцы дзяржаў у Еўропе ці назвы ваяводскіх гарадоў, аб чым трэба на пачатку дамовіцца.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 301253. Тульская обл., Одоевский р-н, п/о Ивицы, Тарасову Евгению, 9 клас.

* * *

СССР, 152207. Ярославская обл., Ярославский р-н. п/о Медведково, дер. Ивановский перевоз, 14. Рябченко Алексей, 5 клас.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



### З ПЛАНЕТЫ АЛЬКОР

На развітанне, на памяць пра падарожжа на планету Алькор жыхары яе падарылі Янку, Алесю і Робіку нешта незвычайнае, вырашчанае ў касмічнай аранжарэі. Калі вы ўсё правільна зафарбуеце, адразу ўбачыце гэтае цуда...

Усё, што пад № 1 — аранжавым колерам, пад № 2 — фіялетавым. № 3 — блакітным, № 4 — жоўтым. № 5 — чырвоным. А тое, што без лічбаў, пакіньце белым


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul Wesołowskiego 1

## З суседскага агародчыка

### ДЗЕНЬ ПРЫЁМУ

Заходжу ў прыёмную. На дзвярах габлічка: „Прыём ад... да...". Прастую да дзвярэй міма наведвальнікаў. Сакратарка спыняе:

— Вам куды?

— Туды, — паказваю пальцам.

— А ім не трэба? — пытае сакратарка, паказваючы на іншых наведвальнікаў.

— А нам не трэба? — крычаць наведвальнікі.

Лагічна. Калі сядзяць — значыць трэба. Згаджаюся. Пакорна сядаю. Чакаю. Разам з усімі. Адзін выходзіць — іншы заходзіць. Адзін праз пяць хвілін, іншы — праз дваццаць пяць. Чарга рухаецца паволі.

Сяджу. Пакінуты варштат з незакончанай дэталлю з думкі не выходзіць. Супакойваю сябе. Нічога страшнага. Пастаіць. Нідзе не дзенецца.

Прайшла гадзіна — я сёмы. Дзве прайшло — трэці. Праз дзве з паловай — першы.

Зайшоў. Называю сябе.

— З якога цэху? — пытае дырэктар.

— З трэцяга.

— Механічнага?

— Механічнага.

— Ад Арнольда Аверкавіча?

— Ад яго.

— Кажуць, вы маляваць умееце?

— Ды трошачкі.

— Я прасіў прысылаць кемлівага чалавека, каб намаляваў графікі ўзрастання прадукцыйнасці працы і зніжэння затраты рабочага часу. Бярыцеся за работу.

**Феадосій Лузан**






*А можа перакінемся на вэнджаную?*

### У БАЛЬНІЦЫ

Лекар зайшоў у палату і бачыць, што медсястра з усяе сілы трасе хворага.

— Што вы робіце? Ці вы з глузду з'ехалі? — крыкнуў ён.

— Выбачайце, доктар, але я забыла, што лекі, якія я яму дала, перад ужываннем трэба было збоўтаць.

### ПАЧАКАЙ, ПАЧАКАЙ...

Бабуля ідзе з малым па скверы. Падбягае сабака і гулліва хапае хлапчука за крысо курткі.

— Табе баліць?! — бянтэжыцца бабуля.

— Не. Ніколечкі.

— У-у, брыдкае шчаня! — махае кулаком старая. — Вось пачакай, зараз палку знайду...

— Пачакай, пачакай, — паўтарае хлопчык і, як бабуля, пагрозліва махае кулачком. — Падрасту вось і цябе таксама ўкушу.

### ДОБРА ЗАХАВАЎСЯ

— Вы добра захаваліся.

— Няўжо і дваццаць гадоў назад я быў стары?

### ДЗВЕ ЎМОВЫ

— Ты ўмееш варыць боршч, нявестачка?

— Ды ўмею...

— А што трэба для таго, каб ён быў смачны?

— Не злую свякруху ды галоднага мужа.



**Быў фахоўцам па ўгадванні задніх думак калег.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Малы Юлюкас да бацькі:

— Тата, а хто такі шэф?

Тут падышоў Кіндзюліс:

— Гэта такі чалавек, які заўсёды прыходзіць на работу позна, калі прыходзіш у час, і заўсёды рана, калі ты спазняешся.

*

Капітан супакойвае пасажырку:

— Не хвалюйцеся, фройляйн, я плаваю ў гэтым праліве ўжо пятнаццаць год і ведаю тут кожны рыф! — У гэты момант моцны ўдар страсянуў карабель.

—Бачыце, вось, напрыклад, адзін са знаёмых рыфаў.

*

— Мадам, я той чалавек, якому вы тры месяцы назад падарылі стары пінжак. У ім я знайшоў пяцьсот франкаў...

— Вы хочаце мне іх звярнуць?

— На жаль, не... Але я прыйшоў даведацца, ці не знойдзецца ў вас яшчэ старых пінжакоў?

### ПРЫЧЫНА

— Чаму вы выскачылі з акна? — пытае ўрач у маладога чалавека.

— Бо мяне дзяўчына ашукала.

— І гэта прычына, каб скакаць з акна?

— Вядома. Яна сказала, што бацькі няма дома, а ён быў.

## З „Весніка Задрыпоніі"

### НОВАЎВЯДЗЕННЕ

Вось ужо год ачуцінаўскі Інстытут надзейных сістэм працуе на эксперыменце. Як у хакеі, тут улічваецца толькі чысты рабочы час. Праз два месяцы, паводле прагнозаў спецыялістаў, работнікі інстытута закончаць першы рабочы дзень.

### ПАРАДА

**Калі вы хочаце мець рацыю ў спрэчцы з жонкай, ніколі не спрачайцеся з ёй у яе прысутнасці.**



### ПЕЎЧЫ СЫЧ

Шумеў вяршалінамі бор,
А ў ім этнаграфічны хор
Драздоў
ды іншых пеўчых птушак
Лагодзіў стройнай песняй душы.
Сюды за нейкі магарыч
Уладкаваўся...
сіплы Сыч
Птушыным хорам кіраваць,
Яго майстэрства развіваць.
Маліноўку каля камля
Ён абарваў на ноце „ля",
Накінуўся і на драздоў,
Маўляў, не выцягнулі „до".
Задзірысты і ганарысты,
Сыч разагнаў усіх харыстаў.
Агеньчык творчасці зачах.
Чуцён тут толькі
хрып Сыча.

**Цімох Дзераза**

З суседскага агародчыка.




## Курёзы

### НАСАРОГАВЫ КАЎБОІ

Амерыканскія каўбоі на спаборніцтвах, якія называюцца радэа, утаймоўваюць паўдзікіх бычкоў і аб'язджаюць наравістых коней. Ужо вядомы радэа, дзе наезнікі скачуць на страўсах і раз'юшаных вяпруках. А вось Джын Холдэр з Блумінгтона (штат Індыяна) прыдумаў на сваёй ферме зусім экстравагантнае радэа, удзельнікі якога аб'язджаюць... насарогаў. Праўда, бывалыя каўбоі цвердзяць, што ўтаймаваць гэту таўстаскурую жывёліну куды працей, чым каня ці быка.



### РЭКЛАМА

„Прадаецца бюро чырвонага дрэва з ножкамі і патайнымі месцамі каралевы Анны".

Аб'ява антыкварнай фірмы „Браун, Сімон энд сан"




**Не пілуй сук, на якім сядзіш. Табе што, суседскіх мала?**